# ДЗЯННІЦА

**Беларуская штотыдньовая газэта.**

**Выходзіць у Пітраградэі, Кацярынінскі канал, дом № 72, 23.**

Падпісная плата: на 12 мсц — 4 рублі
на 6 „ — 2 „

**Асобны номір — 10 капеяк.**




**№ 3** **18—XI** **1916** году.



* *
*

Ніжэй мы друкуїм абвешчаны пазоу мінскага губэрнатара да жыхароу і поміж гэтаго майм сказаць, што той абраз, які устае перад кожным ад нас, прачытаушы яго, ня можа прайсьці дармо між маламальскі чуткага да бяды бліжняга чалавека. Па сіля магчымасьці мы павінны адгукнуцца на яго і завом да гэтага сваіх чытачоу. У адзове мінскага губэрнатара гаворыцца:

У сярэдніх чыслах якцабра, абехаушы Кухоцка-Рольскую, Морчанскую і іншыя воласьці Пінскага павету, аслабаджонага ад ворага, я сам меу зможнасьць праканацца у тым асобна цяжкум палажэньню, у якім ачуціся селяне гэтых мейсц, вярнуушыся з уцеку на свае руіны. Навалны агонь варагоу ня сцярог сьол мірных жыхароу, сьцірау іх с твару зямлі. Падыходзя зіма, а знішчаныя селяне, страціушы усьо свайо дабро, нї маючы прытулку, ні апраткі, туляцца у шалашах. На палову раздзетыя і хворыя дзеці мерзнуць на мерзлуй зямлі; бацькі ж бязмоцны памагчы ім, застаюцца бязпадмогнымі сведкамі дзіцячых мук. Німа слоу, каб апісаць той страх, які аперазвая гэных няшчасных людзей“.

Пад канец губэрнатар завець ахвяраваць апратку і абутак ля помачы пацярпеушым ад вайны.

---

## Пра Круппаускі завод.

У сучаснай вялікай вайне дужа вялікую вагу мая артылерыя. Як быццам дагадаушыся аб сім заранеей, шчэ да вайны, немяц весь час свае падгатоукі да яе, тоя й рабіу, што запасауся гарматамі ды снарадамі к ім. І вось, с пачатку вайны аграмадны лік і нямерная вялічына выпушчаных нямецкімі гарматамі снарадау, уздзівіу весь сьвет. Былі здарэньня, калі у адну гадзіну немїц выстрэльвау болі паутары сотні тысячау снарадау. Гэтак было пры рэчца Дунайцы у Галічыні, у 1915 г. Тады немцы выстралілі па нашаму войску сем соцян тысячау снарадау.—бач гэткую грамаду, піравясьці якую можна былоб толькі на тысячах вагонах. Посьля гэтаго многія думалі, што немцы сабралі весь запас сваіх снарадау і разам яго выстралілі, каб зьдзівіць гэтым весь сьвет, а больш у іх нічога ні астанецца на далі. Але хто так думау—прышлося ашукацца. Немцы з дауных пор да вайны зашмат многа клапаціліся, каб чым найболі збуда-

ваць і пашырыць тыя хвабрыкі і заводы безперасціханку працавалі ля гэтага. Болі усяго стараўся нагатовіць рачэй сьмерці вядомы ва усім свеці Крупаускі завод. Каб вывіць сабе што гэта за завод, мы прывядом кароткі апіс яго вялічыны адным расейскім пісьменнікам. Вось йон піша: Яшчэ у 1810 г. Крупаускі завод быу маленькаю майстэрняю, у якой працавада чатыры чалавекі. А ужо у 1873 г., цяраз 60 г. йон разросся да такіх размерау, што на йом стала працаваць 9000 ч. рабочых. Чым даляй, тым болі і к пачатку 1913 г. на заводзі працавала ужо 80.000 ч. С пачаткам-жа вайны рабочых стала ажно 120.000 ч. Разам з жанкамі, з дзяцьмі, калі лічыць на крук сямйу у чатыры чалавекі — дык пры заводзя жыве болі 300.000 чалавек народу, які у сваей купе засяляя увесь горад Эссен, належачы да меньня Крупа. У 40 атдзеленньнях гэтых заводау ліюць гарматы, у 15 лафеты і ін. Паміж будынкамі заводу жалезная дарога цягніцца на 91 кільометар (кільометар—крыху меней за нашу вярсту); на гэтай дарозі ходзіць каля тысячы вагонау, якіе цягаюць 19 цягнікау. У 1913 г. на гэных заводах пірарабілася:

Жалеза . . . . 1.000.000 тоннау*)
Вугальля згарэла 1.530.000 „
Пашло руды . . . 2.500.000 „

Зачадчыкі Крупаускіх заводау пасталі сабе мэтаю прыжываць рабочых да сябе на усьо жыцьцьо. За гэтым і праца рабочага робіцца спарнейшаю, бо спецыялізуюцца. Але калі Крупп стараіцца усімі сіламі выцягнуць з рабочага усе жылы на карысць, дык за гэта няшкадуюць ля іх трациць шмат грошы на розную патрэбу і забязпячэньне рабочых. Так: даюць ім дарэмныя кватэры, будуюць бальніцы, вучылішчы, бібліотэкі і чаго важней — страхуюць ат нясчастных прыпадкау ды старасьці. Калі умірая рабочы дык яго жонцы на усьо жыцьцьо даецца адна трэйцяя часьціна яго заработку, а дзецям адна пятая часьціна. На усе гэтыя расходы заводы Круппа цусьцілі у 1903—1904 г.

*) Тонна — 61 пудъ.

## Бацькава воля.

Раман *Ц. Гартнага.*

Часьціна першая.

3.

— Зося, га, Зося, абярнулася яна к дачцэ: — вось на, бяры, скарэй павячэрайма да выдзь сабе крыху на вуліцу пагуляй; толькі адно, дачушка, ня бауся, а то заутра зраньня трэ будзя прачынацца да ехаць у поля, пазбліць у Лагоу тыя ганоу з чацьвьора папару...

— Да ня рупся ужо так аб папары: я і сам здалею зрабіць гэта— умяшауся Мікола.

— А у вас хіба яшчэ ні пазяблян папар? —ні то дзівуючыся, ні то скрытна усьмяхаючыся, праказау Васіль: — А я ужо, дзякуваць Богу, усьо скончыу; цяпер толькі скарэй тая касьба падыхоць...

— Ну, ты, вядома, як рупны ды старанны гаспадар, ды шчэ пры тым малады і здаровы хлапец, а мы, — што нам рауняцца! —з гэткаю самаю думкаю адказау Мікола, і упічнакалючая ухмылка зрабіла плыцянькую маршчынку на яго гладкум пукатум ілбу.

Зося таксама спатайку ухмыльнулася і, каб Васіль ня змеціу гэтаго, апусьціла голау к зямлі, быццам чагось шукаючы, затым барджэй адбеглася ад стала і кінулася к вулічнаму вакну.

— Вунь дзяучата ужо гуляюць у Прахора на прызьбе, — праказала яна, угледзіушы, што на суседнюй прызьбя зышлася зборня, — дайця такі хутчэй вячэраць, да выду крыху пагуляю, — просячным голасам скорамоуна абернулася яна к мацяры...

— Ну, добра, ну: усядайціся за стал, я даю, вось.

5.364.000 марак (марка 48 кап.), у 1904—1905 г. 6.534.000 марак. У апошні-ж год перад вайною гэныя расходы дайшлі да 19.698.000 марак. Ня дзіва, што гэтыя падачкі лісцяць рабочым, якія ахвотна атдаюць свае сілы Крупаускаму страшылішчу...

З усяго апісанаго, калі шчэ прыбавіць, што апроч Крупаускіх заводау у немцау йосьціка многа другіх, так сама вялікіх, — зусім ня дзіва, што неміц, гонючы на іх і дні і ночы работу змог нагатовіць сабе страшэнна многа усякага аружжа і снарадау, і што цяпер усяго гэтага йон шмат-шмат вырабляіць і вялікі расход папауняіць.

* *
*

Мілы мне бяз конца, любы
тыя хвілі
Калі сонца у небя падыходзя
к гаю
І у абачным воку, сінюм
небасхілі
Украдкаю Вэнэра з неба
паглядая,
На лугох зяльоных траука
нешахнецца,
Ветрыкам нізваньня ні аткуль
ня вея,
Толькі як ня глянїш, вока
дзе нямкнецца,
Жыта ядраная пекна палавея,
А у баку пры гаю, дзе лугоу
граніца,
Ліп, вярбін дарожка зеляньню
руцянай
Закрывая сонцу срэбную
вадзіцу
Ручайка, што мчыцца стужкаю
зламанай.
У паветры-ж чыстым уйэцца
над зямльою
І крычыць-галосіць сваю
песьню каня,
Быццам бы з гарачай шчыраю
мальбою
Просіць кагось учуці яе крык-
праханьня.
Паглядзім вакола-й сіла
маладая
У стомлянуй істоцця устане-
скалыхнецца,

---

Доуга нічакаючы, Мікола памыу рукі, піражагнауся некулькі раз і палез на покуць; а ля яго, с правае рукі, як і заусьоды, уселася Зося. па другую-ж руку — маленькая Тэклячка.

Васіль нязмігутна глядзеу за кожным паваротам Зосі і як на шылах сядзеу, дрэнчучыся, — каб хаця уся гэта цырымонія з вячэраю скарэй скончылася. Але яно зусім нітак выходзіла, як яму таго хацелася: Марта вясьолая і рэзвая, быццам некая натхненьня найшло на ае, хутка выбегла за нечым у сені, а праз хвілю вярнулася у хату з бутэлькаю гарэлкі, густа закрашанай вішанным узварам свайго гатунку, потым спрытна зняла з гратаукі дзьве фарфуровыя талеркі і на адну з іх налажыла тоустых кускоу удалога тоуетага сыра, а на другую—нарэзанай мернымі крыжэнікамі каубасы, і усьо гэта пасьпешна прынясла і паставіла на стол, засланы пекным квяцістым абрусом.

— Ну, Васіль, проша з намі за стол, — абярнулася яна к Васілю, які зразу, толькі што скмеціу у Марты гарэлку, падумау, што тут павінна сеньні нешта выйсьці, — і выйсьці, дагадвауся йон, і крас пад яго хаценьня. За гэта йон і быу дужа рад, хоць ні паказвау гэтага выглядам твару і на запрашаньне Марты лесьці за стол, пачау дзякуючы аднекваца.

— Не, не, цьотачка, дзякую вам, дужа дзякую за вашу прозьбу, я толячкі вось што ад вячэры; ні хачу, не, ні званьня ні хачу.

Марта, перш вытарашчыушы вочы, паглядзела на яга, посьля няпрыкметна падмагнула Міколу.

— Ды годзя табе аднекваца, —

І ты рвесься к небу, рвесься
также к гаю,
А сыйці ад мейсца ня хацеу-бы-
здэцца.

*Ц. Гартны.*

---

## Байка.

Быу такі пан, што — штоб яму хто ні сказау—йон усьо адкажыць: так, прауда. Як бы хто яму ні хлусіу (маніу) — ніхто ня мог так схлусіць, каб йон сказау, што гэта— ніпрауда.

А любіу той пан слухаць казкі. Хлусіць яму хто якую байку, а йон усьо прытакуіць: „прауда, так“ — кажыць.

От захацелася таму пану пачуць такую казку, каб сказаць, што „гэта — ніпрауда“. Абіцау той пан даць жменю золота таму, хто скажыць такую казку, каб пан ні паверыу.

Алї ніхто ня мог прыдумаць такой казкі.

Аж азвауся на гэты заработак адзін лапатун, Ахрэмка па імені. Вялікі гэта гультай быу да гаспадарскай працы, дык часта ацірау сьцены па шынкох, ды каля людзей цьорся і шмат языком балабаніу.

Дык і пашоу Ахрэм казаць пану казкі. Доуга быу, шмат казак набаіу, а пан пры усякай кажыць: „прауда, так“.

Кажыць тады Ахрэм далэй так: От іду я да-іду па вадзе, а рака шырокая — што і бярагоу ні відаць. Алі ось выскачыу з вады мядзьведзь, задрау к верху хвост ды ка мне. Што тут рабіць? Вазьмі я ды схавайся у баброві́ну. Алї ня мог там уседзіць, бо хтось наклау на дне ракі агню і нарабіу такога курадыму, што дым вочы выядаіць; нават рыба стала пырхаць ды чмыхаць носам.

— „Так, прауда“, кажыць пан.

— Выляз гэта я з баброві́ны, а мядзьведзь ка мне. От я сунуу яму руку у горла. Йон туды-сюды —

---

прагудзеу йон к Васілю -калі тоя трапляяцца гады у рады; вось цудны які. Такітаж ты гэткі блізкі наш сусед, ды яшчэ уздумау саромяцца. Эх, эх, як табе ня брыдка гэта сказаць; садзіся вось, калі ня пагарджаїш нашаю ласкаю. — Га, Васіль!

— О, не не: што вы кажыця,— прақазау Васіль і раптам начау мякчэць. Падняушыся з лавы, йон азірнууся, каб дзе найсьці мейсца ля шапкі. Марта бачучы, што Васіля заклапаціла шапка, доуга ні чакаючы, хутка падскочыла к яму, вырвала з рук шапку і кінула яе, ня гледзючы куды, самаж ашчаперылася у Васіля за руку і сілаю пацягнула яго к сталу.

Вось як хіба трэба с табою, вось як, Годзі табе аднеквацца, годзі, дзівачыцца. Вось, Бог спаможа, да зяцям нашым станіш.

Васіль боляй ні спрачаусй, а з некаю, падышоушаю яму смеласьцю залез за стол і усеуся радам з Зосяю. Выказаная яе бацькамі к яму гасьцінпасць і некая сямейная, натта цьоплая увага, так кранулі яго за жывоя, што йон ні на жарты пачуу у сабе няпамерна гардую вагкасць багатага і знатнага чалавека, з якім ня задарма і гэткія паважаныя у Сілцох мешчане,як Прыдатныя, вельмі лічуцца і дужа шануюць. „Калі так, та і уся справа павінна пахіліцца у мой бок“, прамігнуліся у Васільовуй галаве рыжовыя шчасныя думкі, і весь небасхіл яго агляду апранууся у пекную капоту вясьоласці. Спатайку, наускасяк, йон акінуу зіркам усю пору маучлівую Зосю, і яна паказалася яму у гэты момэнт такою пекнаю, такою прыгожаю, што міжвольва садрыгнулася уся яго істоу та і нейкі апойны халадок пацягну-

толькі хвастом круціць. Засунуу гэта я руку далей і ухапіуся за хвост. От трымаю моцна хвост, закруціу яго на руку, ды як упіорся— дык і вывярнуу . . . . мядзьведзь, а кусацца ня можыць, бо зубы тырчаць на усе чатыры бакі вон.

— Прауда, так, — кажыць пан.

— Пашоу я далей па рацщэ аж бачу: узсела на пчалу да дванацщать мядзьведзяу. Я бегчы ды бегчы ратаваць пчалу. Бег ад ранку да самага змроку. Тымчасам мядзьведзі зйэлі пчолку, толькі костачкі яе засталіся. Пыставіу гэта я пчаліныя косьці к хмарца да й палез на неба. Узлез на неба, пабачыуся са сваімі—з бацькам, з мамай, ды з дзядамі. Падпаілі яны мяне трохі дык і ні магу я найсьці драбіны каб злесьці з неба. От заглядзіу я кучу мяккіны. Давай гэта я з мяккіны віць вяроуку. Зьвіу вяроуку, прывязау яе за кончык месяца і спускаюся у ніз. А тут ляціць матыль. Як махнець йон скрыдлом — вяроука здрыгнулася і парвалася, а я паляцеу у ніз стацьма галавой, прабіу з імпэту зямлю ды папау у пекла.

— Прауда, так, — кажыць пан.

— Зірнуу я па пекля туды-сюды, аж бачу: чэрці на панскім бацьку смалу возюць, ды гадамі падганяюць.

— Брэшыш, галган, — крыкнуу пан; ня можа таго быць!

— А калі ня верыш, дык па-глядзі сам — кажыць Ахрэм.

Заплаціу гэта пан Ахрэму жменю золата павэдля угавору, ды й годзі казкі слухаць болі.

---

## Думкі да граматыкі.

### 3.

Правілы пісьма па Беларуску ні павінны быць такімі — каб завадзіць штучную мову, змышльоную, шмат у чым іншую ад жывой мовы.

Ну дык значыцца—ні з граматыкі мусіць укладацца мова, а сусім наадварот: з мовы — з жывой мовы

---

па ей.

— „Няужо я сумею дачакацца тае пары, што яна маею будзя?“ сумленна запытау йон у думках сам сябе, ды зноу, ужо многа сьмялей, паглядзеу на яе тварынку, і у яго нутру забурліла прагная хаценьня глядзець на яе, безсапачынку, бязсцінаньня; але хмурлівая міна Зосі атручвала яго сэрца, і йон злавау, сам ня ведаючы на каго і што.

— Ну, буць здароу, Васіль—наліушы повін кілішак гарэлкі і падняушы яго высака у руццэ, паабецау к Васілю Мікола.

— Дзякую дужа; піця на здароуя, — шчыра адказау Васіль, ні аднімаючы вачэй ад Зосі.

Мікола раптам перакінуу кілішак у шырока атчыняны рот, наліу яго поуным ізноу і, падаючы Васілю, праказау:

— Пі, нябожа. Дай нам Божа дачакацца таго, каліб мне у цябе на вясельлі выпіць...

— Дзякую дзяцкьу. Дай Божа, — атказау Васіль і следам выпіу гарэлку.

— Мо і ты, Зоська, паспытаїш. абярнууся к дачцэ Мікола.

— Ды не, я ні хачу; адкасніцяся вы, сярдзіта адказала Зося.

— Та чаго ты усьо капрызісься? чаго табе ні стае у нас? сурйозна праказала Марта.

— Гэта яна, мамачка, сьоньні пісьмо с пошты атрымала і мусьбыць аб ім так заклапацілася, — рагочучы, весяла праляпятала Тэклічка. Гэта Зосі ні спадабалася, і яна нісдавольная скрывілася, гнеуна паглядзеушы на сяструцу.

(Далей будзя).

---

павінна укладацца граматыка.

Так і робіцца.

* * *

Для нагляду бяром словы, каторыя ня усімі роуна пішуцца, бо ня усімі роуна выгаварываюцца нікаторыя ніясныя гаманкі.

| *Адны кажуць:* | *Другія кажуць:* |
|---|---|
| люблю родн*аю* — | люблю родную |
| „ пекн*аю* — | „ пекную |
| кажуць: бла*гую* — | благую |
| чуж*ую* — | чужую |

Значыцца, адны — дваякім спосабам у падобных разох падобныяж словы пішуць, а другія — тыяж самыя словы аднастайным спосабам пішуць. Пэунаж, лягчэйшы для граматыкі другі спосаб пісаньня (пекную, чужую) а яшчэ і дзьля таго, каб ня зьмешываць спосабу пісанья:

люблю пекную (вініт. пад.)

з другім значэньням:

іду з пекнаю (творіт. пад.).

* * *

Прыхадзілася ужо казаць пра дзьве формы:

іду з пекн*ай* і з пекн*аю*
з міл*ай* і з міл*аю*
з добр*ай* і з добр*аю*

З гэтага відаць, што карацейшая форма павінна канчацца на *„ай“*, а ні на *“уй“*, як нікаторыя пішуць:

з пекнуй, з добруй.

* * *

Вось таксама дваяка пішуць, бо так пэуна гаворуць людзі:

пакінау — пакінуу
крыкнау — крыкнуу

Алї ніхто ні кажыць:

пакін*алі*, а кажуць: пакін*улі*
крыкн*алі* „ „ крыкн*улі*

Пэунаж лепі у такіх разох пісаць:

пакін*уу*, крыкн*уу*.

А такія ось словы, каторыя кажуць:

бег*алі*, сьціоб*алі*,

дык пісаць трэба:

бег*ау*, сьцьоб*ау*.

А. Б.

(Далей будзїць).

# Навіны.

Газэты паведамілі:

„У Пятраградзі залажылася жыдоуская гімназія, у Казані татарская жаночая гімназія, у Кіяві дазволяна міністрам люцкое асьветы гр. Ігнацьявым дэпутату сучаснай Дзяржаунай Рады Аляксандраву (ат Кацярынаслава) і бывшаму дэпутату першай Дзяржаунай Рады п-ну Шемету залажыць украінскую гімназію“. Усьо гэта зрабілася за апошні год і, як зйавішча поступу у люцкім жыцьці, мая дужа вялікую вагу за сабою. Прасьвячоныя людзі, як болі чуткія да голасу жыцьця, з дауных пор стараліся праканаць усіх, што на пуціня культурнага і эканамічнага збагаценьня стараны ніколі ня трэ ставіць прашкод нацыянальнасьцям па свойму вучыцца, а на адварот — шчэ трэ патураць гэтаму. „Патураючы гэтаму ніколі ніякае бяды ат сяго чакаць ня трэба. Усьо што яно прынясе — толькі карысць. Гэта праудзівая думка ясна для усіх. Ніколі ня трэ прашкодзіць таму, што патрэбна жыцьцю, бяз чаго яно ня можа абыйсціся, ідучы па пуціня поступу.

Усе веруць, што гэта вайна закончыцца тым, што усе народы малыя і вялікія будуць мець правы трываць і развівацца сваей волі.

І ось відаць добрыя таму начаткі у Расеі.

———

У Парыжу адбыуся конгрэс (зйэзд) пасланцоу ад соціал-дэмократыі Польшчы і Літвы і ад часткі Польскай Партыі Соціялістычнай (P. P. S.). На гэным зйэздзі патвердзілі яны такі пратэст:

„Свабоду Польшчы катуюць. Маніфэст нямецкі маучыць аб долі польскаго народу у Прусіі, у Познані. У Аустрыі Галічан адлучаюць з аустрыяцкага парлямэнту, каб гэткім парадкам забазпечыць сабе пiравагу лікам дэпутатау нямецкіх над чэскімі — на шкоду, ведама, чэхам. Да віны у гэтым належуць тыя з Палякау, каторыя моучкі згаджаюцца на палітыку нямецкую і згаджаюцца даць з Польшчы салдатау немцам. Гэтым яны стаюцца прыслужнікамі нямецкага правіцільства.

———

Выдаваная у Коуне нямецкая газэта „Ковнер. Цтг.“ палічыла патребным выказаць некулькі слоу аб дараваным Польшчы маніхвэсці. Вось яны: „Маніхвэст трымая у сабе рашэньне аб будучыне быушых пад валадарствам Рассеі польскіх зямель. Штож датыча будучыны Літвы, дык маніхвэст нічога ня кажа. Але аб сім парашаць посьля. Тояж, што управа Літвою наладавана самасьційна, як ня трэба лепш паказвая, што Нямеччына думая берагчы і падтрымоуваць асобнасць літоускаго народу.

———

Мужычок Воловодоу у г. Александроуску Грушэускум на перадгэтую ваенную пазычку падпісауся на паутара мільона рубльоу; пры сучаснуй пазыцца той самы мужычок сказау, што яшчэ хоча падпісацца на адзін мільон рубльоу. Вот дык мужычок!

———

У Мінску земская управа выбрала хадайнікау, якіх пашле у Піцяр прасіць залажыць у Мінску сельскагаспадарскі інсцітут.

———

Міністрам люцкой асьветы прапісана рыжаскаму вучэбнаму вокругу назначаць інспектарамі народных вучылішчау тых, хто знаіць мяйсцовыя мовы, на якіх гаворуць жыхары Прыбалційскага краю.

———

## Вайна.

Пад канец зімы сьоліта з Каукасу пашлі рускія на турак і з вялікай удачай. Як кранулі і сьпіхнулі турак з мейсца дык з паугоду так туркі усьо паддаваліся — то пападаліся у плен, то адхадзілі назад, то гінулі у баю. Рускім удалося углыбіцца на вьорст дзьвесьця — трыста ад граніцы у Турцію. Рускія забралі шмат губэрскіх гарадоу, ім папалася чуць ні уся старонка Армэніяй званая. Туркі страшэнна крыудзілі здауна армян, хрысьціян, дык армяне рады былі што рускія збавілі іх ад няволі турэцкай.

Пазьней туркі акрэплі, падвязьлі шмат войска і сталі моцна адбівацца ды пнуцца самі наперад. Алітаго шмат што страцілі — шмат сілы трэба каб адбіць, а сіл у іх — ня родзіш калі німа. Усяго мацунку, што немцы падвозюць праз Баугарыю.

Дауна Турція ужо здаласяб каб ні Баугарыя, праз каторую немцы

увесь час правазілі аружжа усякага. Бяз гэтага Турція асталасяб ужо з голымі рукамі і былоб ужо із ей — па вайне!

*Б. Б.*

---

## Пїтраград.

Камітэт Беларускага Таварыства для помачы пацярпеушым ад вайны залажыу беларускую школу для пачатковай навукі граматы. З прозьбай прыняць у школу трэба удавацца у Камітэт штодзень ад 12 чадз. дньом да 9 гадз. вечарам (Знамїнская вул., д. № 36, кв. 54). Навука будзїць дармовая і кніжкі. Для бяднейшых дзяцей будзїць давацца задарма пїракуска. Камітэт скуплїваїць цяпер беларускія школьныя кніжкі.

---

### Беларускі вечар

12—XI прайшоу тут натта добра. Білеты усе разыйшліся. Тэатр быу поуны людзей: Артысты папісаліся усьожткі добра. Натта за „стаража" добра справіуся пан Руткевіч.

---

Рїдактар-выдавец Д. Жылуновіч.

---



«Русско-Французская Типографія». Петроградъ, Офицерская, 6.